«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 49 (4609)

2 ліпеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
*Рэдакцыя.*

SOS!

# На сённяшні дзень за кратамі знаходзяцца 24 супрацоўнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Трымайцеся, калегі! Чакаем вас на СВАБОДЗЕ!



Кацярына АНДРЭЕВА, журналістка тэлеканала «Белсат»



Дар'я ЧУЛЬЦОВА, журналістка тэлеканала «Белсат»



Юлія СЛУЦКАЯ, заснавальніца, дырэктар «Прэс-клуба Беларусь»



Ала ШАРКО, праграмны дырэктар «Прэс-клуба Беларусь»



Сяргей АЛЬШЭЎСКІ, фінансавы дырэктар «Прэс-клуба Беларусь»



Пётр СЛУЦКІ, аператар, супрацоўнік «Прэс-клуба Беларусь»



Ксенія ЛУЦКІНА, экс-журналістка тэлеканала «Беларусь 2»



Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ, медыя-менеджар



Дзяніс ІВАШЫН, журналіст-фрылансер



Анджэй ПАЧОБУТ, журналіст



Марына ЗОЛАТАВА, галоўны рэдактар TUT.BY



Вольга ЛОЙКА, рэдактар TUT.BY



Людміла ЧЭКІНА, генеральны дырэктар TUT.BY



Алена ТАЛКАЧОВА, журналіст TUT.BY



Анжэла АСАД, галоўны бухгалтар TUT.BY



Ірына РЫБАЛКА, намеснік дырэктара TUT.BY



Ала ЛАПАТКА, галоўны інжынер TUT.BY



Дар'я ДАНІЛАВА, дырэктар RocketData, менеджар TAM.BY



Марыя НОВІК, намеснік галоўнага бухгалтара TUT.BY



Аляксандр ДАЙНЕКА, намеснік дырэктара TUT.BY



Андрэй АЎДЗЕЕЎ, менеджар TUT.BY



Кацярына ТКАЧЭНКА, юрыст TUT.BY



Ірына КАСЦЮЧЭНКА, былы юрыст TUT.BY



Аляксандр ІВУЛІН, спартыўны журналіст

Народная Воля http://www.nv-online.info 2 ЛІПЕНЯ 2021 г.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Непадсудныя забойцы

## Таму што беларуская Феміда стаіць на каленях

Помніце, які велічэзны розгалас выклікала леташняя смерць афраамерыканца Джорджа Флойда ад рук паліцэйскага ў Мінеапалісе? Народныя пратэсты тады літаральна паставілі на вушы ўсю праваахоўную сістэму ЗША – вулічныя дэманстрацыі і забурэнні прайшлі ажно ў 400 гарадах. За некалькі дзён той Флойд – у нядаўнім мінулым наркаман, злодзей і рабаўнік – стаў героем і сімвалам змагання цёмнаскурага насельніцтва за свае грамадзянскія правы. І хавалі яго так, як не хавалі і прэзідэнтаў, – у пазалочанай труне, з масавым аплакваннем, з пакаяльнымі прамовамі прадстаўнікоў улады.

Смерць Флойда (як і ўсё ў сённяшнім свеце) трапіла на відэа. На ім відно, як двое шчуплаватых паліцэйскіх хвіліны тры марна спрабавалі пасадзіць у легкавік двухметровага затрыманага. Ён супраціўляўся – не агрэсіўна, а як сонны мядзведзь. Страціўшы цярпенне, паліцэйскія паклалі яго на зямлю і прыціснулі нагой, як аказалася, звыш меры. Флойд сканаў. Ад удушэння.

Прызнанага вінаватым у яго смерці паліцэйскага Дэрэка Шовіна суд нядаўна прыгаварыў да 22 з паловай гадоў турмы. Нягледзячы на тое, што Шовін лічыць, што ён проста выконваў свае службовыя абавязкі. На думку судовых прысяжных, відаць, выконваў няправільна. Напэўна, павінен быў ласкава надзець на парушальніка ўтаймавальную кашулю і выклікаць пад'ёмны кран для пагрузкі таго ў кабрыялет.

Як бы там ні было, 22 гады з гакам – тэрмін уражвальны. А як жа інакш? Мела месца гвалтоўная смерць чалавека. Няважна, кім ён быў і якіх памылак у жыцці найздзясняў. Як гаворыць беларуская прыказка, хто арэ, хто баранue – смерць усіх людзей раўнуе. А яшчэ ўсіх раўняць павінен закон. У пагонах ты ці без, пры выкананні ці не, але калі ад тваёй рукі загінуў чалавек – пакаранне непазбежнае, як узыход сонца над статуяй Свабоды. Што ўрэшце і адбылося – забойца (хай сабе і ненаўмысны) надоўга сеў у турму.

Зазірнуць у вочы амерыканскай Фемідзе пры ўсім жаданні немагчыма – яны шчыльна завязаны. А вось беларуская апошнім часам прызвычаілася падглядаць. Як у вядомым фільме «Пиры Валтасара», дзе танцор народнага ансамбля, насунуўшы чорную павязку на вочы, разганяецца, падае на калені і сунецца па падлозе да ног правадыра. А той потым правярае павязку на празрыстасць і наяўнасць прарэхаў.

Дык вось сённяшняя беларуская Феміда і блізка не нагадвае амерыканскую. Наша Феміда нагадвае таго танцора, яна таксама пляснулася наўколенцы і паслужліва соўгаецца ля падножжа ўлады. Для яе нават забойства чалавека перастае быць злачынствам, калі з-пад прыадхінутай павязкі яна падгледзіць, у які бок варухнула брывом улада.

Улада варухнула брывом – і па факце гібелі мінчаніна Аляксандра Тарайкоўскага нават не распачата крымінальная справа. А ён быў публічна, на вачах у соцень людзей, застрэлены ва ўпор. Хоць нікому не пагражаў, не кідаў у сілавікоў камянямі, проста рухаўся з голымі рукамі перад шыхтом узброеных спецназаўцаў. Знайсці стралка-забойцу можна было б за дзень. Але яго не знайшлі і за дзесяць месяцаў. Бо не шукаюць. Бо ў Беларусі, аказваецца, можна страляць людзей, як кардонных зайчыкаў у ціры. Пацэліш – яшчэ і прыз атрымаеш.

Улада варухнула брывом – і суддзя Святлана Крамянеўская ў Брэсце прызнала вінаватым не забойцу Генадзя Шутава, бацькі пяцярых дзяцей, а… самога Шутава. Хоць сілавік (імя яго вядомае) страляў Шутаву ў спіну. Стралка не толькі не прызналі вінаватым, хоць часткова, але нават не звольнілі са службы і не пазбавілі капітанскіх пагонаў. Гэта ўжо не проста цынізм, а цынізм напаказ. І нібы падказка іншым сілавікам пры нагодзе папрактыкавацца ў стральбе па жывых мішэнях.

Улада варухнула брывом – і забойцы мінскага мастака Рамана Бандарэнкі дагэтуль спакойна ходзяць па вуліцы. На мой погляд, дэманстратыўна-садысцкае, абсалютна нічым не матываванае (за стужачкі!) забойства ўчыніла хеўра, набліжаная да ўлады. І што? У турму трапілі не забойцы, а журналістка Кацярына Барысевіч і лекар Арцём Сарокін, якія адважыліся зняпраўдзіць афіцыйную заяву пра алкаголь у крыві забітага. Так у нашай краіне з'явілася каста недатыкальных – непадсудныя забойцы. Такога цывілізаваны свет яшчэ не ведаў.

Грамадскі актывіст з Ліды Вітольд Ашурак у шклоўскай калоніі «памёр ад сардэчнай недастатковасці» (паводле афіцыйнай версіі). Праўда, калі сваякам выдалі цела, яны жахнуліся – нябожчык быў увесь збіты, у гематомах, з патрушчанай і забінтаванай да пераносся галавой. Відавочныя сляды злачынства. Узбуджана крымінальная справа? Я пра гэта не чуў. Ды і што казаць, давесці палітычнага да смерці – у нас гэта як камара раздушыць…

Чалавечае жыццё ў сучаснай Беларусі перастала быць каштоўнасцю. Яго не абараняе ні ўлада, што ў сваёй помслівасці і нянавісці да ўласнага народа, я лічу, канчаткова з'ехала з катушак, ні створаны гэтай самай уладай закон, які стаў ужо нават не дышлем, які можна паварочваць куды заўгодна, а анучай, аб якую бесцырымонна выціраюць ногі і следчыя, і пракуроры, і суддзі.

Апомніся, беларуская Феміда! Юзаць на каленях ля падножжа ўлады знойдуцца ахвотнікі і без цябе, пры любым троне лёкаяў ва ўсе часы хапала. Вынесшы сотні несправядлівых прысудаў, усё ж згадай, што спрадвечны твой рыштунак – вагі справядлівасці, а давераны табе пад гасподу палац правасуддзя – не лёкайская…

# Знешняя запазычанасць Беларусі ў студзені–маі паменшылася на 2,5 працэнта да 18 мільярдаў долараў

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

Марина КОКТЫШ

# ТРАВЛЯ



Известный историк **Игорь Кузнецов** и провластный журналист **Андрей Муковозчик** довольно громко выясняют отношения. Колумнист газеты «СБ. Беларусь сегодня» категорически не согласен с выводами и оценками кандидата исторических наук по поводу Великой Отечественной войны, да и не только. Казалось бы, ну и что здесь такого? Нормально, когда разные люди имеют разные взгляды на одни и те же исторические события. Даже среди историков встречаются различные мнения. Можно спорить, приводить доводы и контраргументы. В конце концов, сесть за один стол и лоб в лоб обсудить всё, что только возможно. Но делать это нужно цивилизованно, уважая взгляды другого человека. А люди – не дураки, сами выводы сделают, разберутся, чья точка зрения им ближе. Но у автора sb.by, похоже, другой взгляд. Он налево и направо рубит всех, кто имеет альтернативное мнение, не особо стесняясь в выражениях. И Кузнецов – не исключение: с 2019 года ему достается от Муковозчика, но недавно в его адрес полетели уж слишком оскорбительные слова.

***«Дрянь ты, Игорь, не ученая, а чисто человеческая дрянь, оскорбляющая подвиг наших предков. Очерняющая нашу народную память. И фальсификатор, разумеется»*,** – это дословная цитата с сайта sb.by в адрес доцента кафедры дипломатической и консульской службы факультета международных отношений БГУ Игоря Кузнецова. При верстке материала в sb.by она, видимо, специально, выделена жирным шрифтом.

Муковозчик, который закончил физфак БГУ и был одним из создателей белорусского Клуба веселых и находчивых, считает, что кандидат исторических наук Игорь Кузнецов… реабилитирует нацизм. Он так и пишет в своей колонке: *«Прошу считать настоящий материал официальной просьбой к компетентным органам проверить действия доцента Кузнецова Игоря Николаевича по основным направлениям недопущения реабилитации нацизма в соответствии с законом. Подсказка: а если в его соцсетях покопаться, там вообще напубликовано на рыцарский крест с дубовыми листьями. С личной подписью Геббельса».*

Не первый раз в этом году Муковозчик в своих публикациях отмечает: мол, таким очернителям истории, как Кузнецов, не место среди преподавателей одного из самых престижных факультетов БГУ.

Профессиональный историк Кузнецов, прочитав текст в sb.by, где его обозвали бранным словом, тоже решил обратиться к компетентным органам – пошел в прокуратуру Советского района Минска.

*«Прошу приобщить к моему заявлению от 23 июня 2021 года скриншот очередной публикации А.Муковозчика «Канун начала войны – хорошее время, чтобы разобраться с учеными коллаборантами»,* – написал Кузнецов в своем заявлении. – *В данной публикации А.Муковозчик, используя средства массовой информации, вновь распространил обо мне заведомо ложные сведения клеветнического характера…. Особенно меня возмущают абсурдные, циничные и клеветнические обвинения меня, как сына ветерана Великой Отечественной войны, в так называемой реабилитации нацизма.*

*Также считаю, что многократные упоминания А.Муковозчиком в тексте слова «лжет» и «снова лжет» являются для меня как профессионального историка оскорбительными и унизительными.*

*Приведенные в тексте публикации клеветнические сведения не соответствуют действительности, наносят мне оскорбления и порочат мою честь, достоинство и деловую репутацию как кандидата исторических наук, дипломированного специалиста, доцента кафедры дипломатической и консульской службы факультета международных отношений БГУ.*

*Считаю, что гражданином А.Муковозчиком против меня проводится целенаправленная работа по дискредитации перед научной, педагогической общественностью, преподавателями и студентами факультета международных отношений БГУ, а также перед руководством Министерства образования Республики Беларусь, ректоратом БГУ с целью непродления со мной контракта на работу».*

Как отреагирует прокуратура на заявление Игоря Кузнецова – пока неизвестно. Но вот история, на которую быстро откликнулись правоохранительные органы. В Речице судят 65-летнюю пенсионерку **Людмилу Хлусевич**, которая в минувшем году под фотографией милиционера, работающего на разгоне митинга, написала слово *«тварь»*. Возбудили уголовное дело – за то, что пенсионерка оскорбила сотрудника внутренних дел. Приговора пока нет – ответчицу отправили на психолого-психиатрическую экспертизу.

Может, и на случай с Муковозчиком последует такая же оперативная реакция и дело дойдет до суда?

Невольно вспомнилось: Белорусский союз журналистов заявил, что заморозит всякое взаимодействие с ОО «Белорусская ассоциация журналистов», если Минюст подтвердит факты нарушения с их стороны законодательства и Глобальной хартии этики журналистов. Члены комитета по этике БСЖ даже перечислили в своем заявлении возможные пункты грубого нарушения БАЖем базовых для профессии международных стандартов профессии, среди которых – регулярное использование языка вражды, подмена фактов публицистикой, системный и намеренный отказ от проверки информации, игнорирование альтернативной позиции и фактов и другие.

Интересно, комитет по премиям и профессиональной этике ОО «Белорусский союз журналистов», который возглавляет главный редактор газеты «Звязда» и бывший министр информации **Александр Карлюкевич**, не хочет обратить свое пристальное внимание на публикации Муковозчика? Или сорняки только в чужом огороде заметны? А когда вот так травят человека и фактически призывают его уволить с работы – это с точки зрения этики безупречно?

Критику, безусловно, нужно принимать. Но ведь и критика бывает разной! Когда один из телеграм-каналов призывает на месте редакции «Народной Воли» *«вбить большой осиновый кол»* – это уже не журналистика. Тут и до покушения на убийство сотрудников редакции недалеко.

Странно, что ни Министерство информации, ни руководство БСЖ, ни главный редактор «СБ. Беларусь сегодня», ни правоохранительные органы на это не реагируют, и такая мерзость расползается как по сетям, так и по официальным средствам массовой информации. Делают вид, что ничего не видят, что всё в соответствии с самыми высокими стандартами журналистики.

На ненависти друг к другу и репрессиях далеко не уедешь.

Надо оставаться людьми, даже если находимся, как говорится, по разные стороны баррикад. Человек в человеке умирать не должен, даже если это война. Информационная, в данном случае.

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# «Андрэй шмат чытае, глядзіць футбол…»

## Журналісту і медыяменеджару Андрэю Аляксандраву на гэтым тыдні выстаўлена новае абвінавачанне – паводле ч.1 арт.356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве).

Пра гэта паведаміў БелаПАН яго адвакат **Антон Гашынскі**. Такім чынам, Аляксандраву пагражае ад 7 да 15 гадоў пазбаўлення волі.

Раней Аляксандрава абвінавацілі паводле чч.1 і 2 арт.342 (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Максімальны тэрмін утрымання пад вартай па гэтым артыкуле – шэсць месяцаў. Ён заканчваецца 12 ліпеня.

**Андрэй Аляксандраў** – беларускі журналіст і медыяменеджар – быў затрыманы 12 студзеня 2021 года супрацоўнікамі МУС. Разам з ім была затрымана яго дзяўчына **Ірына Злобіна**, з якой ён разам жыве.

15 студзеня ў афіцыйным паведамленні намеснік міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь **Генадзь Казакевіч** заявіў, што Аляксандраў і Злобіна былі затрыманы «па падазрэнні ў фінансаванні пратэстнай дзейнасці». Паводле ягоных слоў, Аляксандраў і Злобіна са жніўня 2020 года займаліся фінансаваннем асоб, якія бралі ўдзел у пратэстах у Мінску, у тым ліку шляхам аплаты штрафаў і кампенсавання сродкаў на ўтрыманне ў ЦІП і ІЧУ.



Паводле паведамлення МУС, Аляксандраў з 22 жніўня па 9 лістапада аплаціў 250 штрафаў. Спісы і грошы на аплату штрафаў Аляксандраву перадаваў фонд BY Help.

Зараз журналіст знаходзіцца ў сталічным СІЗА на Валадарскага…

– *Нягледзячы на тую сітуацыю, у якой знаходзіцца Андрэй, ён настроены аптымістычна*, – распавёў «Народнай Волі» журналіст **Зміцер Яненка**, які праз перапіску пастаянна падтрымлівае сувязь з Аляксандравым. – *Піша, што ў камеры шмат чытае, нават тыя кнігі, якія чытаў яшчэ ва ўніверсітэце. Глядзіць па тэлевізары матчы чэмпіянату Еўропы па футболе, паколькі Андрэй балельшчык са стажам.*

*Нават знаходзіць нагоду яшчэ і нас на волі падтрымаць. Піша: «Трымайцеся!» У інтэрнэце з гэтай нагоды ўжо нават жартуюць, што палітвязні так добра апісваюць свой побыт, што за кратамі, відаць, зараз нават лепей, чым на волі.*

Паводле апошняй інфармацыі, у камеры, дзе знаходзіцца Андрэй Аляксандраў, было чатыры чалавекі.

– *Пра ўмовы утрымання асабліва нічога не паведамляе, але адвакат кажа, што ён не скардзіцца,* – дадае Зміцер Яненка. – *А вось лісты ідуць па-рознаму. Часам і за тры дні ліст даходзіць, а здараецца, што і тры тыдні ідзе. Навет не ведаю, чым гэта можна патлумачыць.*

*Андрэй, дарэчы, адказвае на ўсе лісты, якія яму даходзяць, хаця калегі скардзіліся, што доўгі час ад яго наогул не было навін.*

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ЭКСКЛЮЗИВ

## Олег ГАЙДУКЕВИЧ:

# «В 2020 году были не выборы. Это было противостояние...»

*Председатель Либерально-демократической партии Беларуси, депутат Палаты представителей **Олег ГАЙДУКЕВИЧ** решением Европейского Союза включен в список лиц, в отношении которых введены санкции. Он крайне эмоционально отреагировал на это, опубликовав в «Фейсбуке» резкий комментарий.*

*«Народная Воля» связалась по телефону с О.Гайдукевичем и попросила ответить на несколько вопросов, вытекающих из его протестного заявления.*




**– Вы написали: «*Я никогда не поддержу любые антиконституционные действа*». Но, согласитесь, фальсификация результатов голосования на прошлогодних президентских выборах – это ведь грубейшее нарушение Конституции. И о том, что очень многие избирательные комиссии пошли под прессингом властей и спецслужб на этот противозаконный шаг, свидетельствуют сотни неопровержимых фактов.**

**Да, собственно, и сам Лукашенко косвенно признал, что итоги выборов сфальсифицированы. Почему вы, как лидер партии и депутат, не восстали против этого, не предложили тут же пересчитать бюллетени по каждому участку и при подтверждении фальшивых цифр поставить вопрос о проведении новых, честных выборов с соблюдением всех толкований законодательства?**

– Первое. Никакие новые выборы были не нужны. Украина провела новые выборы, когда кандидатом в президенты был Виктор Ющенко. Он победил, и страна развалилась. Не в 2014 году развалили Украину, а тогда, когда пошли на поводу у оппозиции и провели незаконный третий тур выборов.

Второй момент. Нарушения во время выборов, возможно, и были. По каждому факту надо было разобраться.

Но я хочу сказать, что Лукашенко выиграл выборы, а Светлана Тихановская их выиграть не могла. Я объехал всю страну. Гомель, Гродно, Витебск... Никто в том количестве, которое указывала Тихановская, за нее никогда не голосовал.

Поэтому при всех вопросах, которые кто-то задает, Лукашенко законно выиграл выборы. Нравится это кому-то или нет.

При этом (об этом заявляли и партия, и я) в стране, безусловно, надо проводить политические реформы. Потому что в 2020 году были не выборы. Это было противостояние, в котором оппозиция поставила такую задачу: мол, сменим Лукашенко любой ценой, а потом разберемся. Такие выборы лично мне не нужны, в таких случаях я всегда поддержу государственный строй и Конституцию.

**– И все-таки: почему не расследовались факты фальсификаций, хотя об этом заявляли даже некоторые члены избирательных комиссий? Фактов было предостаточно...**

– А я всегда говорил, что по каждому факту нужно было разобраться. Но, повторюсь, выборы выиграл Лукашенко. Это законно избранный президент страны.

А некоторые еще до выборов сказали: будем решать судьбу страны на улице. Сергей Тихановский, которого сейчас пытаются сделать политзаключенным, еще до того, как были сформированы избирательные комиссии, заявил: меня, мол, выборы не интересуют, всё решим на улице. Вот кто виноват! Тот, кто взбудоражил людей. И за них люди пострадали. Людей вывели на улицу, подставили, а хорошей улицы не бывает. Как не бывает и хорошей революции. Поэтому нужно смотреть в корень проблемы.

**– Второй вопрос. В вашем заявлении по случаю несогласия с тем, что вас включили в санкционный список, есть такое утверждение: «*Я всегда буду против решения судьбы страны на улицах*». Но вы что, не слышали о таком высказывании философа с мировым именем Джона Локка: «*Если государь нарушает закон, то народ получает право на восстание*»?**

**Не потому ли тысячи и тысячи людей вышли на улицы, что власти уже в первую ночь после голосования попыталась скрыть факты фальсификации волеизъявления народа? Чем, на ваш взгляд, продиктовано то, что на большинстве избирательных участков вообще не были вывешены итоговые протоколы голосования?**

– Не знаю, что там говорил философ, но не бывает хороших улиц и революций. Ни одна страна, прошедшая через уличные протесты, ничего хорошего не получила. Улица – это кровь и насилие. И ни один погибший человек этого не стоит. В Украине на Майдане погибла «небесная сотня», а политики и сегодня жируют. Так ради чего погибли?

Так что я скажу так: самые гадкие выборы лучше самых хороших уличных протестов. Вот и весь ответ!

А где там протоколы не вывешивали, я не знаю. Наша партия – не правящая. Я – лидер конструктивно оппозиционной партии и не знаю, где висели протоколы, а где их не было.

Но я говорю по существу. Если будет выбор между улицей и плохими выборами, то выберу последнее.

**– А зачем вообще было проводить, как вы говорите, «гадкие» выборы, если власти были уверены в своей победе? Где представители оппозиции и общественности в избирательных комиссиях? Где прозрачный подсчет голосов? Были бы нормальные выборы – не было бы улицы. Не улавливаете связь?**

– Первое – я всегда выступал за реформу избирательного законодательства. Если бы власти прислушались и после президентских выборов 2015 года провели конституционную реформу, то не было бы и сейчас таких сложных выборов.

Должны быть лидеры фракций в парламенте, мажоритарно-пропорциональная система. В России такие выборы, как были у нас, невозможны. Какой бы радикал или олигарх ни выдвинулся – он никто. Он – ноль на фоне лидеров фракций Госдумы.

Поэтому нам тоже надо развивать политическую систему. И выборы в стране должны быть такие: кто бы ни победил, он не сможет радикально изменить курс страны. Не сможет поломать государственный строй. Не сможет изменить геополитический курс и устои государства.

Поэтому я выступаю не за улицу, а за эволюционный путь развития страны. Но это не отменяет то, что власть тоже делала ошибки и должна сделать для себя уроки.

А на улицу после выборов вышли разные люди. И никто не имеет права говорить от их имени. Ни Светлана Тихановская, ни Павел Латушко, которого двадцать пят лет эта власть устраивала, а сейчас он – герой.

...На улицу кто-то вышел из-за результатов выборов. Кто-то по экономическим причинам. Кто-то искал приключений.

Но многие из них уже давным-давно разочаровались в тех, кто их обманул, предал, уехал за границу, спрятался в гостинице и призывает к санкциям.

**– Еще раз хочу услышать ваше мнение: фальсификации во время выборов были?**

– Я убежден, что могли быть где-то нарушения, но никаких оснований для проведения новых выборов нет. Они просто не нужны. Новые выборы сделают страну еще слабее. Если сейчас объявить такие выборы, то они ослабят нас еще в два раза.

Нужно менять Конституцию, надо делать единый день голосования, избирать местные Советы, парламент, принимать Закон о политических партиях, делая политическую систему устойчивой. И тогда уже можно спокойно проводить президентские выборы.

**– Недавно вы утвердительно написали: «*Первые выборы* (имеется в виду после прошлогодних президентских. – Ред.) *пройдут в 2023 году, и я обещаю, что ЛДП выступит очень сильно*». Если можно, раскройте секрет: откуда у вас такая информация насчет того, что до 2023 года не будет никаких выборов? А ведь миллионы людей требуют перемен не в отдаленной перспективе, а как можно скорее...**

– А зачем нам нужны выборы до 2023 года? Мы сейчас предложили изменить Конституцию и перенести выборы в местные Советы на 2023 год. Если мы проведем референдум и поменяем Конституцию, то полномочия депутатов в местные Советы, которых изберут в 2022 году, будут всего год. Зачем это делать?

Я не знаю, как будет на самом деле, потому что не решаю за всю страну. Но обращаюсь к власти: к 2023 году нужно изменить избирательное законодательство, принять Закон о политических партиях и провести ряд политических реформ.

**– Скажите, в новом избирательном законодательстве должен быть зафиксирован прозрачный подсчет голосов, обязательное присутствие в участковых избирательных комиссиях оппонентов власти?**

– Конечно, я выступаю за то, чтобы мы двигались в сторону совершенствования избирательного законодательства, чтобы вопросов к проведению выборов было меньше. Не у международной общественности, которая заранее пишет какие-то отчеты, а именно у граждан Беларуси.

Для белорусов и для себя мы должны корректировать избирательное законодательство и должны понять одно: страны с одним мнением никогда не будет. И мы должны обеспечить гражданам право выражать свое мнение. Без радикализма, без улицы, без внешнего финансирования и иностранного влияния.

Но я вам скажу так: если бы Светлана Тихановская выиграла выборы, сегодня этой страны уже не было бы.

**– А что было бы со страной?**

– Развал! Силовые структуры были бы ослаблены, и начали бы Беларусь разворовывать. Всё бы распродали и уничтожили.

И второй момент – Тихановской никто не дал бы управлять. Она – не самостоятельная фигура. Лукашенко можно и нужно критиковать, но я не представляю, чтобы ему кто-то позвонил и сказал: того министра назначь, а этого сними. Это невозможно, а Тихановской давали бы указания. Но, считаю, что выборы она не выиграла.

Сейчас идет гибридная война, противостояние. И надо понимать, что никто на Западе за белорусов не переживает. Их в меньшей степени интересуют белорусские выборы и в большей – геополитика. Беларусь – очень важный геополитический регион. На нас идет давление, но нужно выстоять. Надо развивать политическую систему, раскрепостить бизнес, дать еще возможность спокойно работать. Власть должна делать выводы. Не сделает – будет хуже.

**– Последнее. Как вы считаете, репрессиями по отношению к оппонентам власти, изоляцией от цивилизованного западного мира можно добиться построения демократической Беларуси с развитой экономикой, высоким уровнем и благосостоянием народа?**

– Я – сторонник закона. Нарушил его – отвечай. Уголовный кодекс должен быть равен для всех.

**– Так в том-то и дело, что он не для всех равен. Вас не угнетает то, что в стране давным-давно правовой дефолт?**

– Я видел много фейковой информации, так что не всему стоит верить. Но я на собственном опыте могу сказать, что в августе прошлого года мне и моей семье на телефон пришло огромное количество угроз. Говорили, что должен чуть ли не на площадь идти, становиться на колени и присягать какой-то новой власти.

Друзья мои, хороших революций не бывает! Те, кто хотел сделать какую-то революцию, должен это понимать. И когда мы критикуем белорусские правоохранительные органы, то давайте посмотрим на другие страны. Когда в Украине силовики ушли с улиц, погибли сотни людей. Ушли в Кыргызстане – пострадали сотни.

И я убежден, что силовики спасли нашу страну от государственного переворота и от большой крови. А люди должны помнить, что улицы без крови не бывает. Поэтому одни призывали на улицы, а сами в это время чай пили, а другие попали под дубинки.

**– Так и для силовиков, наверное, законы должны работать? Или они от этого сегодня освобождены?**

– По каждому факту нужно разбираться, но часто факты, которые приводятся в СМИ, оказываются фейками.

И еще: а чего вы сегодня удивляетесь репрессиям и насилию? Вы же хотели революцию! А где вы видели революцию без насилия? Пускай спасибо скажут, что сегодня люди спокойно ходят по улицам.

**– Ваш прогноз: что дальше ожидает страну и общество?**

– Хочу сказать, что спустя год после выборов эмоции немного улеглись. Многие поняли, что протестовать нет смысла.

И дальше будет зависеть от того, что мы будем делать сами. Я считаю, что перво-наперво надо принимать новую Конституцию, чтобы страна стала более устойчивой. Власть не должна зависеть только от президента, и каждые выборы не должны быть стрессом для страны.

На выборы нельзя допускать ни одну политическую силу, которая финансируется извне. Ни партии, ни политики не должны выступать ни с какими радикальными заявлениями. Выступил? Нет тебе места в политике.

И надо заниматься, конечно, интеграцией с Россией. Я – сторонник суверенитета, но убежден, что интеграционные процессы с Российской Федерацией укрепят нашу государственность. Такая моя позиция...

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

***Слов нет, это интервью, позволившее О.Гайдукевичу без цензуры открыто изложить свою позицию по острейшим вопросам общественно-политической жизни страны, вызовет немало комментариев с самых разных сторон. И «Народная Воля» готова в таком же ключе продолжить разговор. Есть желающие вступить в принципиальную дискуссию – пожалуйста, рады будем предоставить такую возможность. Понятно, у господина Гайдукевича эмоции перехлестывают через край, многие его выводы голословны, а вы, его оппоненты, постарайтесь свою точку зрения подкрепить конкретными фактами, убедительными доказательствами, реальными примерами.***

***Надеемся на серьезный, обстоятельный разговор. Сообща белорусское общество должно выработать варианты того, каким образом восстановить в стране справедливость, нормальную жизнь.***

***Редакция «Народной Воли» остается верна своему главному принципу – не закрывать рот никому, представлять читателям самые разные точки зрения. Так что ждем откликов на опубликованное интервью О.Гайдукевича, который давно привлекает к себе внимание эпатажностью, провластной пропагандой и категоричностью мышления.***

КАМПЕТЭНТНАЕ МЕРКАВАННЕ

## Ігар ЗЕЛЯНКЕВІЧ, былы міністр аховы здароўя Беларусі:

# «Закрываюць установы і звальняюць медыкаў тыя, хто не стварыў нічога»

*Чалавек, які быў міністрам аховы здароўя ў 1997–2001 гадах, раіць усім перачытаць маналог булгакаўскага прафесара Праабражэнскага пра разруху ў галовах.*

У Беларусі, паводле дадзеных Рэспубліканскага банка вакансій, на 30 чэрвеня не хапае 3092 урачоў, 3206 медсёстраў, 1036 фельчараў. Міністэрства аховы здароўя сцвярджае, што адтоку медыкаў няма. І ў той жа час называе такія лічбы: у апошнія 5 гадоў патрэба ў дактарах застаецца на ўзроўні 2,5–3 тысячы.



### «Відавочна, што ўрачы сыходзяць, і сыходзяць лепшыя. Частка эмігрыруе»

*Экс-кіраўнік ведамства разважае, як вырашыць праблему дэфіцыту кадраў, чаму звальненне лекараў і разбурэнне навуковых школ – злачынства і чаму небяспечна атачаць сябе падхалімамі і асабіста адданымі людзьмі.*

**– Ці магчыма рэанімаваць сістэму аховы здароўя? Што яшчэ трэба зрабіць, акрамя таго, што вы назвалі?**

– Магчыма. Рэанімуем – я аптыміст.

**– У краіне чатыры медыцынскія ўніверсітэты і 16 медкаледжаў, якія выпускаюць штогод амаль такую ж колькасць адмыслоўцаў, якіх бракуе. Чаму медыкаў пастаянна не хапае, куды яны знікаюць?**

– Гэтыя лічбы вакансій медыкаў самі за сябе гавораць: праблема рэальна існуе, і яна не такая простая, як некаторым падаецца. Лічбы ёсць у адкрытым доступе, і востры дэфіцыт медыкаў – аб'ектыўная рэальнасць. У Міністэрстве аховы здароўя павінны быць пісьменныя ўпраўленцы, якія павінны абапірацца на факты, а не замоўчваць праблему.

Аднак так не атрымаецца, што, маўляў, не хапае 3 тысяч дактароў – і 3 тысячы выпускнікоў медуніверсітэтаў прыйдуць, каб закрыць вакансіі. Не. Выпускнікі ж працягваюць вучобу ў інтэрнатуры. А гэта яшчэ не ўрачы, а паўфабрыкат, скажам так. Па некаторых спецыяльнасцях я наогул павялічыў бы тэрмін інтэрнатуры да 2 гадоў. Які гэта анестэзіёлаг са стажам 1 год? Гэта адзін аспект.

Відавочна, што ўрачы сыходзяць, і сыходзяць лепшыя. Куды? Частка эмігрыруе, частка ўладкоўваецца ў прыватныя кампаніі, у фармацэўтычныя фірмы. Наспеў час прааналізаваць: куды яны сыходзяць і да чаго гэта прыводзіць. Калі гэта высакакласны спецыяліст, гэта прыводзіць да разрыву сувязяў, страты навуковай школы. І гэта катастрофа!

Ёсць у нас Савет міністраў, адпаведны віцэ-прэм'ер, урад. Чаму не падрыхтаваць рэспубліканскую комплексную праграму замацоўвання медыцынскіх кадраў? Людзей утрымліваюць не толькі грошы альбо навуковая ідэя (хоць пэўны час яна можа ўтрымліваць). Павінна быць комплекснае вырашэнне: жыллё, істотныя льготы для маладых сем'яў.

Не адміністрацыйныя метады, хоць такія таксама ёсць. Да прыкладу, размеркаванне. Я лічу, што на сёння яно актуальнае, бо ў рэгіёнах жывыя людзі, яны чакаюць і доктара, і настаўніка.

Падрыхтоўка аднаго спецыяліста, асабліва ва ўрачэбнай справе, патрабуе вялікіх затрат, гэта вельмі дарагое задавальненне. Дык што, мы настолькі багатыя, што рыхтуем адмыслоўцаў для Польшчы, Расіі, Украіны?

Давайце мы тут створым ім умовы.

### «Урача агульнай практыкі я лічу «міністрам аховы здароўя»

**– Вы пастаянна адстойваеце ідэю ўвесці ўрачоў агульнай практыкі замест участковых тэрапеўтаў. У чым іх перавага?**

– Яшчэ ў 1990-х мы адкрылі факультэт падрыхтоўкі ўрачоў агульнай практыкі на базе Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Бо разумелі, што сістэма аховы здароўя мае патрэбу ва ўдасканальванні. І ўзялі за аснову ўсё лепшае, што з'явілася ў свеце, – менавіта дактары агульнай практыкі. То бок выпускнік медуніверсітэта павінен прайсці дадатковую падрыхтоўку альбо на базе БелМАПА, альбо ў клініцы, дзе ён праходзіць інтэрнатуру.

Урач агульнай практыкі – гэта перш за ўсё тэрапеўт. Ён павінен умець апрацаваць, зашыць рану – валодаць хірургічнай іголкай. Таксама павінен ведаць асновы кардыялогіі, неўралогіі. І тады, умоўна кажучы, нам не спатрэбіцца такая колькасць ЛОР-дактароў. А то я прыйшоў да ўчастковага, у мяне баліць горла, а ён нават у рот мне не зазірнуў, адразу накіраваў да ЛОРа.

Так што функцыі ўрача агульнай практыкі – як у міністра аховы здароўя. Ён павінен умець аналізаваць дадзеныя, рабіць высновы.

Павінна быць шматузроўневая сістэма аказання медыцынскай дапамогі. Пярвічнае звяно – магчымасць правесці абследаванні, хаця б элементарныя рэчы зрабіць у межах пярвічнага звяна ва ўрача агульнай практыкі. Потым – кансультацыя вузкіх спецыялістаў. І трэці, самы высокі ўзровень, калі ёсць неабходнасць у апаратыўных умяшаннях, – гэта вядучыя профільныя РНПЦ. Мы ж не ідзём адразу да акадэміка, калі штосьці забаліць.

Калі мы назвалі яго ўрачом агульнай практыкі, мясцовыя ўлады павінны заключыць з ім кантракт, гарантаваць дадатковыя выплаты. За што? Да прыкладу, правёў вакцынацыю – атрымаў дадатковы рубель. Я нядаўна быў уражаны мізэрнымі тэмпамі вакцынацыі – у Беларусі прышчапілася толькі 6 працэнтаў насельніцтва. Трэба зацікавіць дактароў, каб яны праводзілі тлумачальную працу, пераконвалі сваіх пацыентаў у неабходнасці вакцынацыі. А нязгодных я прапаную звадзіць на экскурсію ў рэанімацыю, дзе ляжаць цяжкія хворыя, – няхай паглядзяць на гэтае пекла!

Трэба зацікавіць маладога спецыяліста службовым жыллём. 15 гадоў адпрацаваў – набываеш катэдж па рэштkавым кошце. Не месца ў інтэрнаце ці свінарніку даваць, а нармальнае чалавечае жыллё.

Павысіў урач кваліфікацыю – атрымаў істотную даплату. Я нават ведаю, за кошт чаго можна даплаціць. Прычым я не прыхільнік таго, каб у некага адняць, я толькі за тое, каб дадаваць.

### «Гэта злачынства, калі штосьці закрываюць, кагосьці звальняюць»

**– Вы сказалі, што Беларусь губляе навуковыя школы. Ці шмат мы ўжо згубілі, ці магчыма штосьці аднавіць?**

– Навуковая школа – шматграннае паняцце, гэта агульная навуковая тэматыка, якая аб'ядноўвае людзей.

У свой час Мікалай Яўсеевіч Саўчанка (мой настаўнік, я гэтым вельмі ганаруся), аб'яднаўшы высілкі разам з Давідам Майсеевічам Голубам, заняўся вельмі актуальнай праблемай – нейрагеннымі разладамі мочаспускання. Голуб – як марфолаг, анатам, а Саўчанка – як уролаг. Спачатку было асэнсаванне навуковай ідэі. Потым сумесная праца з акадэмічнымі інстытутамі, Камітэтам па навуцы і тэхналогіях. Да нас у 4-ю клініку прыязджалі пацыенты з усяго Савецкага Саюза, каб лячыцца па метадыцы Саўчанкі і Голуба. Мой шэф Саўчанка ездзіў у Японію, там паказваў, як гэта робіцца. Я працаваў у 4-й клініцы і вельмі ганаруся гэтым. Дарэчы, трансплантацыя органаў адтуль пачалася, менавіта ў 4-м шпіталі пачалі перасаджваць ныркі.

І цяпер павінны быць прапановы, свежыя ідэі. А то ў нас ужо патыхае правінцыялізмам. Адна справа – займацца кампіляцыяй, перапісваннем прац калег, і іншая справа – распрацоўваць штосьці новае.

І гэта новае павінна аб'яднаць адмыслоўцаў і лекараў вакол гэтай ідэі. Сёння можна адабраць 5–10 перспектыўных маладых навукоўцаў, пасляць іх на стажыроўку – каб яны пабачылі новыя ідэі. Моладзь павінна мець тэмы для дысертацый. Але яны павінны паказаць вынік, а не проста малекулы на атамы расшчапляць.

Нядаўна мяне абурыла абвестка па тэлевізары: збіраюць грошы на аперацыю ў Сербіі дзяўчынцы, якая пакутуе на экстрафію мачавога пухіра (адсутнасць пярэдняй сценкі). Ды некалі да нас з усяго Савецкага Саюза прыязджалі на аперацыі з такім захворваннем! Былі хірургі, якія ўмелі гэта рабіць. Дзе яны цяпер? Накіроўваюць дзяўчынку ў Сербію, збіраюць шалёныя грошы! За гэта хтосьці павінен адказаць.

Я марыў пра ДНК-даследаванні, каб вызначаць схільнасць да анказахворванняў. Быў некалі пры Міністэрстве аховы здароўя Інстытут спадчынных і прыроджаных захворванняў, у яго быў выбітны кіраўнік Генадзь Ілліч Лазюк. Я ганарыўся гэтым інстытутам, бо там былі самыя найноўшыя тэхналогіі, ДНК-дыягностыка. Інстытут закрылі.

Гэта злачынства, калі штосьці закрываюць, кагосьці звальняюць. Прычым закрываюць установы і звальняюць медыкаў тыя людзі, якія самі не стварылі нічога.

### «Мы рызыкуем страціць навуковую школу ў дзіцячай анкагематалогіі»

**– Звольнілі дырэктара РНПЦ кардыялогіі прафесара Мрочака. Як і шмат дактароў з РНПЦ дзіцячай анкалогіі і гематалогіі, з РНПЦ «Маці і дзіця», з РНПЦ траўматалогіі. Замянілі галоўных урачоў некаторых шпіталяў. Лекары вымушаны эмігрыраваць, і іх бяруць на працу па спецыяльнасці ў замежныя клінікі. Міністэрства аховы здароўя праблемы не бачыць, гаворыць пра звычайны адток кадраў на ўзроўні пары соцень чалавек, як ва ўсім свеце.**

– Гэта абуральна. Казаць, што праблемы няма, адток кадраў неістотны, – амаральна.

У нашым грамадстве ўсё яшчэ лунае тэзіс, што «незаменных людзей няма». Гэта вельмі заганны бальшавіцкі тэзіс. Маўляў, звольнім гэтага – на яго месца прыйдуць іншыя. А хто прыйдзе?

Вось хто такі былы дырэктар РНПЦ кардыялогіі Аляксандр Мрочак? Гэта фігура еўрапейскага маштабу, вядомы ў свеце кардыёлаг, акадэмік, незаменны ў сваёй галіне адмысловец.

Што ён павінен быў зрабіць падчас вядомых падзей, калі супрацоўнікі РНПЦ кардыялогіі выходзілі на акцыі пратэсту, на думку тых, хто звальняў? Што, дырэктар павінен быў не пусціць людзей, легчы папярок дзвярэй? Тым больш што людзі выходзілі на пратэсты ў непрацоўны час, ніводная аперацыя не была сарвана. За што звольнілі Мрочака – за тое, што не звальняў сваіх супрацоўнікаў?

Губляючы такіх лідараў, мы сябе абядняем.

Я не хачу сказаць, што хтосьці лепшы, хтосьці горшы. Але, прызначаючы кіраўніком РНПЦ дзіцячай анкагематалогіі чалавека, які не спецыяліст у гэтай галіне, мы рызыкуем страціць цэлую навуковую школу, што стварыла Вольга Вітальеўна Алейнікава. Яна «маці» гэтага кірунку, заснавальніца навуковай школы дзіцячай анкалогіі і гематалогіі, стваральніца ўнікальнага РНПЦ, якім амаль 25 гадоў кіравала, у нас вынікі лячэння лейкозаў найлепшыя ў свеце.

Дарэчы, ідэя такога цэнтра была падхоплена расіянамі – у Маскве па прыкладзе беларускага РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі стварылі падобны Нацыянальны даследчы цэнтр імя Дзмітрыя Рагачова. Але мы былі наперадзе.

### «Калі кіраўнік любога ўзроўню атачае сябе падхалімамі, толку не будзе»

**– Цяпер з РНПЦ дзіцячай анкалогіі звольніліся шэсць вядучых дактароў (пятая частка), і працуюць замест іх інтэрны. А Вольгу Алейнікаву і другога адмыслоўца з усясветна вядомым імем, былога дырэктара РНПЦ анкалогіі Алега Суконку пазбавілі дзяржпрэміі.**

– Што да пазбаўлення дзяржпрэмій – я не ведаю акалічнасцяў. Тэлефанаваць гэтым людзям я пакуль не магу, наносіць ім рану – гэта садызм. Павінна быць сацыяльная разнастайнасць, павінны быць розныя думкі, як казаў некалі геніяльны расійскі генетык Мікалай Кальцоў.

А калі кіраўнік любога ўзроўню атачае сябе падхалімамі, толку не будзе. Таму што яны будуць пастаянна думаць: *«Чего изволите?»*

Прафесіяналы павінны кіраваць падборам і расстаноўкай кадраў – HR-адмыслоўцы. Мне цяжка казаць, ці ёсць цяпер прафесіяналы ва ўладзе. Аднак дакладна ёсць людзі, якія ўчора кіравалі лазняй, а сёння – оперным тэатрам, умоўна кажучы. Перачытайце Міхаіла Булгакава, у «Сабачым сэрцы» ёсць маналог прафесара Праабражэнскага пра разруху ў галовах.

*(Радыё Свабода)*

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Коварная «Дельта»

## Новый штамм коронавируса передается на 60 процентов быстрее.

Коронавирус активно мутирует, что приводит к появлению новых штаммов. Дельта-вариация коронавируса сейчас активно распространяется по всему миру и вызывает беспокойство у ученых. Пациент с таким штаммом может заразить одновременно до восьми человек. Именно по этой причине участились случаи заражения коронавирусом всей семьи.

Версий коронавируса огромное количество, потому что вирус активно мутирует, но особое внимание привлекают те вариации, которые имеют наиболее опасные мутации, могут приводить к активному распространению, более тяжелым симптомам, увеличению смертности или понижать эффективность вакцин.

### Откуда взялся вариант «Дельта»?

Это одна из трех наиболее значимых вариаций индийского штамма коронавируса, которая получила номер B.1.617 SARS-CoV-2. Она была зафиксирована в Индии в декабре 2020 года. Другие версии хоть и были более заразными, но их симптомы не отличались от классических для COVID-19. Отчасти именно с «Дельтой» связывают резкий рост заболеваемости и смертности в Индии, которая до этого вполне успешно справлялась с пандемией.

Индийский штамм может вызвать не совсем привычные для ковида симптомы. Практически ушли кашель, одышка и потеря обоняния.

Новые признаки данного штамма: **боль в горле, головная боль, насморк, сыпь, сухость во рту, тошнота, диарея, покраснение глаз**.

При этом у человека может не быть повышенной температуры или она может появляться позже остальных симптомов. Поэтому люди, инфицированные индийским штаммом, часто не понимают, что у них ковид, и заражают других.

Для большинства молодых людей вирус напоминает обычную простуду, которая часто начинается с боли в горле и/или насморка. Из-за этого люди не склонны соблюдать меры профилактики, что приводит к более активному распространению.

### Насколько заразен штамм «Дельта»?

Данный вирус является более трансмиссивным. Если человек с классическим "уханьским" вариантом в среднем заражал двух человек, то «Дельта» способна передаваться в среднем 5–8 новым заболевшим.

В Британии данная версия вируса уже фиксируется у 90% всех больных и активно распространяется. В России данный вирус сейчас фиксируется в Москве и Санкт-Петербурге, но это в первую очередь связано с тем, что там исследования проводят наиболее активно. В других городах в целом недостаточно данных о штаммах вируса, которые переносятся больными.

Некоторые специалисты связывают рост заражений по миру именно с появлением штамма «Дельта».

Проблема в том, что теперь дельта-штамм поражает молодых: к примеру, в Великобритании передача дельта-штамма достигла пика именно в возрастной группе от 12 до 20 лет. Его симптомы легко спутать с обычной простудой, однако течение болезни более тяжелое по сравнению с "уханьским" вариантом. Согласно результатам исследования Института Ашера при Эдинбургском университете и Совета по общественному здравоохранению Шотландии, дельта-вариант несет повышенный в 1,85 раза риск госпитализации, если сравнивать с британским штаммом SARS-CoV-2. Передается он на 40–60 процентов быстрее, сообщает *Naked Science*.

### Помогает ли от «Дельты» вакцинация?

Данных по эффективности российских вакцин против нового штамма пока нет. Но опыт Великобритании показывает, что эффективность иностранных вакцин значительно снижена: «Файзер» – 79% после двух доз, «АстраЗенека» – 60% после двух доз. После одной дозы («Файзера» или «АстраЗенеки») – 30–33%.

### А если я уже болел COVID-19?

По данным ВОЗ, высока вероятность повторного заражения новым штаммом. Но данных пока недостаточно.

### Как обезопасить себя?

– При посещении общественных мест (магазинов, транспорта и др.) обязательно используйте медицинские одноразовые или гигиенические многоразовые маски и соблюдайте социальную дистанцию 1,5–2 метра.

– Не касайтесь грязными руками глаз, лица и рта.

– Избегайте близких контактов и пребывания в одном помещении с людьми, имеющими видимые признаки ОРВИ (кашель, чихание, выделения из носа).

– Тщательно мойте руки с мылом и водой после возвращения с улицы и контактов с людьми.

– Дезинфицируйте гаджеты, оргтехнику и поверхности, к которым прикасаетесь.

– Ограничьте по возможности при приветствии тесные объятия и рукопожатия.

– Пользуйтесь только индивидуальными предметами личной гигиены (полотенце, зубная щетка).

*(mcvm.ru)*

МАЯ БЕЛАРУСЬ

# Палескія зубры

Магчыма, гэта выглядае дзіўным, але велічныя старажытныя лясныя волаты зубры на Беларускае Палессе трапілі дзякуючы… аварыі на ЧАЭС.

Ад выбуху на Чарнобыльскай атамнай станцыі наша краіна пацярпела мацней за іншых: чацвёртая частка беларускіх зямель была забруджана радыяцыяй. Дзясяткі тысяч гектараў глебы з высокім утрыманнем радыенуклідаў, сотні адселеных вёсак, дзе засталіся без жыцця дыхтоўныя дамы… Гомельская вобласць прыняла на сябе асноўны ўдар: на яе тэрыторыі выпала да 70 працэнтаў усіх радыеактыўных ападкаў.

Але ўплыў радыяцыі на прыроду, флору і фауну ў цэлым нечакана аказаўся меншым, чым меркавалі спецыялісты. Сур'ёзна пацярпелі толькі тыя жывёлы і расліны, якія атрымалі звышвялікія дозы радыяцыі адразу пасля выбуху.

Паводле назіранняў навукоўцаў, дзікая прырода даволі хутка пачала ажываць пасля таго, як тэрыторыю адчужэння пакінулі людзі. Тое, што на навакольны свет знікла антрапагенная нагрузка ад гаспадарчай дзейнасці чалавека, па сутнасці, стварыла ідэальныя ўмовы для росквіту раслiннага і жывёльнага свету. «*Сумныя высновы: прысутнасць чалавека і яго жыццядзейнасць аказваюць на дзікую прыроду значна больш негатыўны ўплыў, чым атамная катастрофа*», – піша вядомы вучоны-біёлаг прафесар Пятро Рыгоравіч Козла.

У 1988 годзе ў Беларусі на тэрыторыі трох найбольш пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС раёнаў – Брагінскага, Нараўлянскага і Хойніцкага – быў арганізаваны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Непасрэдны мэтай стварэння яго было вывучэнне ўплыву розных доз радыяцыі на жывыя арганізмы.

За тры дзесяцігоддзі без умяшання чалавека прырода ў пойме ракі Прыпяць набыла амаль некранутыя свой першапачатковы выгляд. На гэтай унікальнай тэрыторыі сёння можна сустрэць бурага мядзведзя, рысь, барсука, зуброў, коней Пржэвальскага і іншых рэдкіх звяроў, дзясяткі відаў птушак і раслін, занесеных у Міжнародную Чырвоную кнігу і Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Некаторыя, як конь Пржэвальскага і зубр, з'явіліся дзякуючы намаганням навукоўцаў.



У ліку першых біёлагаў, якія працавалі вахтавым метадам на заражанай тэрыторыі, была вядучы навуковы супрацоўнік аддзела экалогіі фаўны НАН, кандыдат біялагічных навук **Тацяна Георгіеўна Дзярабіна**. Мы папрасілі яе расказаць пра тое, як рэалізоўвалася Нацыянальная праграма "Зубр" у Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведніку.

### Лясны волат

Зубр у сучаснай прыродзе – гэта такая «дапатопная істота», адзін з самых старажытных прадстаўнікоў мамантавай фаўны, роскіт якой прыходзіцца на сярэдні і позні плейстацэн (70–50 тысяч гадоў таму). Гэта самы буйны від наземных млекакормячых Еўропы, які стагоддзямі служыў у тым ліку і ежай для людзей. Паляваць на ляснога волата было няпроста, аб чым расказвае у сваім эпічным творы "Пан Тадэвуш" Адам Міцкевіч. Другі вядомы паэт Мікола Гусоўскі напісаў паэму «Песня пра зубра», у якой услаўляе велічную моц і неўтаймаваны характар дзікага звера. Сустрэча з зубрам выклікае заўсёды шквал першабытных пачуццяў і эмоцый.

Так сталася, што зубр перажыў на пачатку ХХ стагоддзя сваю «клінічную смерць». Беларусь таксама ўнесла важкі ўклад у агульную справу выратавання і захавання гэтага віду на Зямлі. Таму з поўным правам мы можам казаць, што гэта наш нацыянальны здабытак і гонар.

На Беларускім Палессі еўрапейскі зубр з'явіўся дзякуючы Нацыянальнай праграме ў 1996 годзе. Менавіта тады ў Палескім дзяржаўным радыяцыйна-экалагічным запаведніку была створана новая мікрапапуляцыя віду Bison bonasus Linnaeus. Засяленне адбылося на тэрыторыях, якія падвергліся інтэнсіўнаму забруджванню даўгавечнымі радыенуклідамі і былі практычна выведзены з гаспадарчага карыстання. З Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» завезлі 16 жывёл, і пасля адаптацыі ў загоне яны былі выпушчаны на вольны выпас. Дастатковая лясная раслiннасць, вялікая тэрыторыя запаведніка (216,5 тыс.га), адсутнасць людзей і асабліва ржым аховы спрыялі хуткай акліматызацыі зуброў. За першыя пяць гадоў колькасць іх павялічылася ў пяць разоў; у запаведніку нарадзілася 92 цяляты.

### Пад апекай чалавека

Зубры палескай папуляцыі ніколі не падвяргаліся селекцыйнаму адбору, чалавек не ўмешваўся ў фарміраванне полаўзроставай структуры іх статка. Асваенне тэрыторыі пражывання адбывалася як і ў старажытнасці – натуральным шляхам.

Гэта толькі на першы погляд здаецца ўсё проста: тут зубры пасуцца, а там яны адпачываюць. На самай справе іх прасторавае размяшчэнне – цікавая з'ява, якая адыгрывае пэўную ролю ў іх жыцці. Участкі самцоў заўсёды размяшчаюцца на невялічкіх лясных астраўках пасярод лугавых палеткаў, дзе буяюць травяныя расліны, каштоўныя ў кармавым значэнні. Для адпачынку часцей зубры выбіраюць дубровы – з граба або дуба, змешаныя з насаджэннямі вяза, алешыны і ясеня.

Запаведнік як дзяржаўная ўстанова нясе адказнасць за захаванне і забеспячэнне аптымальных умоў для існавання віду. Таму зубры тут на асаблівым, можна сказаць, нават прывілеяваным становішчы. З усіх насельнікаў запаведніка толькі яны знаходзяцца пад апекай чалавека: для іх робіцца выключэнне, і ў асенне-зімовыя месяцы выкладаецца падкормка, падтрымліваюцца ў належным стане месцы іх вадапояў і саланцы, падсяваюцца кармавыя палі і іншае.

Нідзе так нагляднa не праяўляецца строгая іерархія, успасціваю гэтаму віду, як пры раздачы корму. У першую чаргу да кармушак маюць доступ толькі моцныя дарослыя самцы і самкі, якія стаяць на самай высокай іерархічнай прыступцы. Калі ў гэтых самак ёсць малыя цяляты, то і яны пад прыкрыццём маці таксама могуць аказацца ў першым шэрагу.

Затым карміцца падыходзяць самкі рангам ніжэй. Маладыя самцы, якія перажылі дзве зімы, дзеляць з гэтымі самкамі доступ да корму. Зубраняты мінулага года нараджэння, якія ўжо выйшлі з-пад апекі маці, стаяць ззаду ўсіх. Пры абмежаваным ліку кармушак і недастатку кармоў яны, як і аслабленыя хвараватыя жывёлы ніжэйшага рангу, могуць застацца без ежы. Такі натуральны біялагічны адбор.

Ёсць у зуброў і смешная, па сутнасці, «дзіцячая» прыхільнасць: пясочныя купанні. Купалкі яны ладзяць там, дзе ёсць магчымасць пакачацца ў рыхлай глебе ці пяску. Варта толькі насыпаць непадалёк ад падкормачнай пляцоўкі невялікую кучу пяску – зубры абавязкова прыйдуць купацца. Убачыўшы сабе такую карціну: агромністы бык раптам валіцца на спіну, задзірае ногі ўгору і дрыгае імі ў клубах пылу. Дзіўна, што і пры гэтай працэдуры зубры захоўваюць іерархію, як і каля кармушкі або пры вадапоі.

Колькасць палескай папуляцыі еўрапейскага зубра на сёння вырасла ў дзесяць разоў і складае каля 170 лясных волатаў. Перасяленне белавежскага зубра можна лічыць паспяховым.

**Алена ВАСІЛЬЕВА.**

**Фота Тацяны ДЗЯРАБІНАЙ.**

*«Алеся».*

КРЫЖАВАНКА

# Лепш памерці, як тыгр, чым жыць, як мыш



**Па гарызанталі:** 1.«Калі … вырашыў забіць тыгра, гэта называецца спортам, а калі тыгр вырашыў забіць …, гэта называецца крыважэрнасцю» (Б.Шоу). 29 ліпеня – Міжнародны дзень тыгра. 4.Сябар, блізкі прыяцель (разм.). 30 ліпеня – Міжнародны дзень дружбы. 7.Калі ты тыгр, дык кабан для цябе не … (прык.). 9.Марскі рак. 10.Для сябра і сем вёрст не … (прык.). 11.Добрым людзям – …, а шаленцам – галавою ў вір (прык.). 12.Чалавек без сябра, што … без солі (прык.). 15.Калі тыгр з'еў твайго ворага, гэта не значыць, што ён ужо твой … (прык.). 16.«Падабенства паміж дыктатарам і тыграм заключаецца ў тым, што і тыя, і другія не любяць, калі ім доўга глядзець у …» (цытата невядомага аўтара). 17. … да Евы заляцаўся, а ўсе вінаватыя (прык.). 18.Ім абмахваюцца ў духату. 19.Наступленне цемнаты. 23.Куст з шыпамі – не шыпшына, а … (прык.). 24. … коп не грошы, абы хлопец харошы (прык.). 25.У сваёй будцы і … тыгр (прык.).

**Па вертыкалі:** 1.«Нібыта лоцманы, дэльфіны, // Нас у фарватары вядуць» – з верша С.Грахоўскага «Дэльфіны, … і пілот». 23 ліпеня – Сусветны дзень кітоў і дэльфінаў. 2. …, ці цырк, – чашападобнае паглыбленне ў гарах. 3.Лепш памерці, як тыгр, чым жыць як … (прык.). 4.Мы з табою, як рыба з вадою: ты на …, а я на бераг (прык.). 5.Акіянская раўніна – гэта … для дэльфіна (прык.). 6.Без друга на сэрцы … (прык.). 8. Мясцовасць перад гарамі. 13.Адказ на загадку. 14.Лепш пражыць год, як …, чым усё жыццё, як авечка (прык.). 20.Многа шахаў, а … адзін (прык.). 20 ліпеня – Міжнародны дзень шахмат. 21.Лепш дэльфін у руках, чым … у моры (прык.). 22.Лоб нізкі, … слізкі, відаць, што лізаў панскія міскі (прык.).

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Чалавек. 4.Дружбак. 7.Перашкода. 9.Краб. 10.Крук. 11.Мір. 12.Яда. 15.Друг. 16.Вочы. 17.Адам. 18.Веер. 19.Змярканне. 23.Агрэст. 24.Сто. 25.Сабака.

**Па вертыкалі:** 1.Чайкі. 2.Кар. 3.Мыш. 4.Дно. 5.Казка. 6.Завіруха. 8.Прадгор'е. 13.Адгадка. 14.Тыгрыца. 20.Мат. 21.Кіт. 22.Нос.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

УСМІХНІЦЕСЯ...

# Адэскія досціпы

★★★

– Сямён Маркавіч, вы здраджвалі сваёй жонцы?

– Для меня не існуе паняцця «здрадзіў», ёсць паняцце «пераблытаў».

★★★

– Яша, чаму вы, інтэлігентны чалавек, так пабілі Зяму?

– Па заслугах! Гэты нягоднік спіць з маёй жонкай!

– І такі шо? Калі ў чалавека густы супадаюць з вашымі, значыць, яго трэба біць?

★★★

– Якаў Майсеевіч, у чым сакрэт вашага доўгажыхарства?

– Галоўнае ў жыцці – мець мэту. Мая мэта – перажыць Сару.

★★★

– Сёма, чаму ты дагэтуль не паведаміў паліцыі, што ў цябе ўкралі аўтамабіль?

– Чакаю, калі яго адрамантуюць, перафарбуюць, тады і паведамлю.

★★★

– Моня, я ў захапленні ад вашых пачуццяў! Вы з Бэлай жывяце разам ужо 30 гадоў і тым не меней, гуляючы па горадзе, заўсёды трымаецеся за рукі!

– Сёма, калі я выпушчу яе руку, яна абавязкова што-небудзь купіць.

★★★

Рабіновіч на вуліцы сустракае Гольдберга.

– О, колькі лет, колькі зім! Як вашы справы? Чым займаецеся?

– Дзякуй, памаленьку. Вось засеў за мемуары.

– Гэта цудоўна! Дарэчы, вы ўжо дайшлі да моманту, як пазычылі ў мяне 500 рублёў?

**Сабраў Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ